The Byelorussian Times

ЧАС
Двумоўны беларускі
часапіс у З.Ш.А.

No.58, Vol.12, USPS 345—170 January 1987 9—06 Parsons Blvd., Flushing, N.Y. 11357 Price $1.35

AMONG DOCUMENTS FROM BYELORUSSIAN HISTORY:

# A PROTEST BY THE COUNCIL OF MINISTERS OF THE BYELORUSSIAN NATIONAL REPUBLIC *TO THE PEACE CONFERENCE IN PARIS*

*Regarding the establishment of Polish civil government in the occupied parts of Byelorussia and preparations by the Poles for a staged referendum.**

Under the pretext of fighting Bolsheviks, the Polish army is gradually seizing territories of the Byelorussian National Republic.

First, according to an agreement with the German authorities, Poland occupied the District of Hrodno (Grodno) and then seized the old Byelorussian capital of Vilna.

Taking advantage of the German refusal to allow timely formation of the Byelorussian army, the Poles, refusing to enter into any relations whatsoever with the local Byelorussian authorities of the Byelorussian National Republic and with the aid of bayonets, are installing Polish civil government in the occupied Byelorussian territories. They have announced that Polish authorities will be supervising elections of deputies who will then express the will of the people.

Clearly, under the pressure of the Polish militia, there can be no question or even a discussion of the expression of a free will by the Byelorussian people. This is clearly evident from a whole series of arrests of those Byelorussian activists who are known to have expressed their opposition to the Polish occupation.

We note, that the Byelorussian Nation has already expressed its will at the All-Byelorussian Congress in Miensk in December 1917 and has proclaimed a Byelorussian National Republic in its ethnographical boundaries and has elected a government with a legislature in the form of the Rada of the Republic and an executive in the form of a Council of Ministers.

The Byelorussian Government turns to the Peace Conference with a most grave protest against the seizure by the Poles of the civil government in the Byelorussian territories occupied by them and against the preparations by the Polish occupants for an alleged "expression of will" of the terrorized population in a most unacceptable manner. The Byelorussian Government declares that peace is possible in the East (Eastern Europe) only under conditions of an immediate recognition of all newly founded National Governments within their just and ethnographical boundaries. The seizure by the Poles of this or another part of Byelorussia, even if seizure is "justified" by an agreement wrenched out of the population by bayonets and intrigues, will leave a wound which will never heal and will be the cause of the most bitter national struggle which will create in Eastern Europe another Balkans.

The Byelorussian Government places the entire responsibility for the consequences of these provocative Polish actions directly on the Polish Government.

*Chairman of the*
*Council of Ministers and*
*Foreign Minister of the*
*Byelorussian National Republic,*
(signed) A. Luckievic

May 8, 1919

*) From: "Byelorussians and the Poles", *K. Ezavitau*, Kowno, 1919.

# Why we need HELSINKI II

***THE "CLUB OF 35" SHOWS NO RESPECT WHATSOEVER FOR THE RIGHTS OF NATIONS ENSLAVED BY MOSCOW, AMONG THEM BYELORUSSIA AND UKRAINE WHICH ARE MEMBERS OF THE UNITED NATIONS***

THE Helsinki Final Act, the result of the Conference on Security and Cooperation in Europe (CSCE) was signed on August 1, 1975 by 35 states including the United States, Canada and the Soviet Union.

The Helsinki Final Act, despite its limited success in establishing some standards on human rights on an individual basis, has failed miserably when applied to the rights of nations enslaved by Moscow. The Helsinki Agreement has not restrained Soviet Russia's imperial expansion which, after signing the Agreement, invaded Afghanistan and has not released a single captive nation from its grip.

Last November a third CSCE Follow-up Meeting was convened in Vienna, but like its predecessors in Belgrade (1977-78) and in Madrid (1980-83), the conference has shown no respect whatsoever for the national rights of enslaved nations.

Byelorussia and Ukraine, the founding members of the United Nations, were not only excluded from the list of the 35 signatories of the Final Act in 1975, but also were not permitted to participate in any of the CSCE Follow-up Meetings despite protests.

The loudest protest came from the Ukrainian National Government in exile which, primarily on behalf of itself, but also on behalf of Byelorussia since both are members of the United Nations, demanded that they be allowed to participate in the CSCE Follow-up Meeting in Vienna. On November 5, 1986, at a press conference held in the Canadian Embassy in Vienna, a Ukrainian representative asked John Clark, Prime Minister of Canada, for Canada to intercede with members of the Vienna Meeting on behalf of both the Ukraine and Byelorussia and to formally raise the question of their participation at the conference. Mr. Clark declined to do so on the ground that the main Canadian effort at the conference is in the area of human rights in the USSR as a whole. Ukrainians also asked Kurt Waldheim, President of Austria, to allow the Ukrainian Government in exile to be seated at the Vienna conference as the only legitimate Ukrainian government. Waldheim evaded the issue by referring the matter to the Austrian Foreign Ministry. A protest was then filed with the Austrian government.

It is only right and proper for Byelorussians and Ukrainians to protest in any possible manner their nations' sorry treatment by the so-called "club of 35". The failures of today should not discourage us in the future. A time will come when there will be "Helsinki II" which will no longer exclude nor discriminate against Byelorussia, Ukraine or any other nation presently held captive by Moscow.

# *PRIMATE OF* BAOC *VISITS AUSTRALIA*

ON December 15, 1986, Metropolitan Iziaslav, Primate of the Byelorussian Autocephalous Orthodox Church (BAOC), left New York for a month-long official visit to the BAOC parishes in Australia. This was the Metropolitan's second visit to that continent in five years and his first as primate.

Metropolitan Iziaslav visited the BAOC parishes in Melbourne and Adelaide, the two major Byelorussian communities in Australia. Included in the Metropolitan's agenda, was the ordination of a new priest to replace the late Rev. Sitnik from the Adelaide parish of St. Peter and Paul.



METROPOLITAN IZIASLAV
PRIMATE OF THE BAOC

On December 21, 1986, Mr. Michael Burnos from Adelaide, was ordained a deacon at the Church of Martyrs of Vilna in Melbourne and later, on January 4, 1987, in the Church of St. Peter and Paul in Adelaide, he was ordained a priest by Metropolitan Izias-lav with the assistance of Rev. A. Kula-kouski, pastor of the Melbourne par-ish, and two Ukrainian and a Serbian priests.

On January 7, 1987, Metropoli-tan Iziaslav was the chief celebrant at the Orthodox Christmas services at the Church of Martyrs of Vilna in Mel-bourne. On that same day, the *Sev-enth Convention of Byelorussians of Australia* opened in Melbourne at which Metropolitan Iziaslav read the invocation and extended his greetings to the delegates.

Throughout his month-long visit, Metropolitan Iziaslav was warmly greeted by friendly crowds of parishioners and well-wishers from the Byelorussian and Australian communities. The churches were filled for all services officiated by Metropolitan Iziaslav and, according to reports, in addition to the general church business, the Metropolitan's visit also helped to more closely unite the Byelorussian communities in Australia. There was a general sense of importance of the visit among the people. (A further report on the Mertopolitan's visit to Australia is given in an accompanying article in Byelorussian).

# ПЛАЧУЧАЯ ІКОНА БАГАРОДЗІЦЫ
## ў Чыкагскай Царкве

ЧЫКАГО 22 сьнежня 1986

У апошнія два тыдні малавядомая чыкагская Албанская Праваслаўная Царква Сьв. Мікалая сталася месцам шматлікага паломніцтва. Больш за пяць тысяч чалавек штодзённа наведваюць царкву, сталымі парахвіянамі якое яшчэ нядаўна былі 250 праваслаўных сем'яў.

Шостага сьнежня сьвятар царквы а. Філіп Куфос зьвярнуў увагу на тое, што на вачах Багародзіцы, намаляванае іконы 23 гады назад мангатанскім мастаком Канстантынам Юсісам, паявілася цеча, яўна напамінаючая сьлёзы.

Грэцкі праваслаўны архідыяканат Паўночнае й Паўднёвае Амэрыкі накіраваў у Чыкага спэцыяльную камісію, якая аўтарытэтна сцьвердзіла ўзьнікненьне цуду й паказала ў апублікованай заяве, што „аб ніякай містыфікацыі ня можа быць і гутаркі".

„Плачучая ікона бачна паказвае, што нават у наш час, адзначаным бурным разьвіцьцём навукі, тэхнікі й дюдзкіх ведаў, застаецца месца для цуду й веры", гаворыцца ў заяве.

Ікона памерам тры на пяць футаў напісана на палатне й устаўлена ў звычайнай дзеравяннай раме. Айцец Куфос заявіў, што кажны жадаючы можа пераканацца ў існасьці цуду. Праваслаўны архідыяканат заявіў аб зьяўленьні вільгаці на іконе Калядным пасланьнем Дзевы Марыі з заклікам адмовіцца ад матэрыялізму ў карысьць духоў-

(працяг на 4-й бачынцы)

# Візыта Мітрапаліта Ізяслава ў Аўстраліі

## На Архірэйскіх Багаслужбах Было Шмат Народу й Многія Пачуцьцёва Адчувалі Важнасьць Тых Падзеяў



На просьбу Настаяцеля й Парафіяльнай Рады Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Мэльбурне, Аўстраліі, на просьбу парафіі БАПЦ ў Адэляйдзе на выкананьне чыну рукапалажэньня новага сьвятара на мейсца адыйшоўшага ў вечнасьць а. Аўгена Сітніка ды й на адкрыцьцё *Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі* ў Мельбурне, Яго Высокапрэасьвяшчэнства Уладыка Мітрапаліт Ізяслаў, Першагерарх БАПЦ, 15-га сьнежня, 1986 году, выяхаў на візыту да Аўстраліі.

**У МЭЛЬБУРНЕ**
**Спатканьне на лётнішчы**

17-га сьнежня 1986 году, на лётнішчы ў Мэльбурне, Аўстраліі, прыбыўшага Уладыку Мітрапаліта спаткала дэлегацыя меснай парафіі БАПЦ сьв. Віленскіх Мучанікаў Антона, Яна й Эўстафа на чале з Настаяцелям протапрасьвіцерам а. Аляксандрам Кулакоўскім і Матушкай Раісай. У знак пашаны Уладыку быў уручаны прыгожы букет жывых кветак.



**Рукапалажэньне Міхаіла Бурноса ў сан дыякана**

У нядзелю 21-га сьнежня, 1986 году, у парафіі сьв. Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне, у часе сьв. Літургіі, Уладыка Мітрапаліт выканаў чын рукапалажэньня на дыякана Міхаіла Бурноса, былога дырыгэнта хору ў парафіі сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе. Царква была перапоўнена вернікамі й вельмі прыгожа сьпяваў царкоўны хор.

Пасьля сьв. Літургіі быў адслужаны Малебен удзячнасьці з удзелам духавенства ў складзе Мітрапаліта Ізяслава, протапрасьвіцера а. Аляксандра Калакоўскага, а. Уладзімера Сальгі (УАПЦ) й новага дыякана Міхаіла Бурноса. Таксама былі прысутныя сьвятары: Дзімітры Гайна — румынскі; Ефтым Бетынскі — македонскі; і Іскандар Афрам — сырыйскі.

Пасьля Багаслужбаў, Сястрыцтва частавала ўсіх багатым абедам у царкоўнай залі запоўненай парафіянамі й гасьцямі.

**У АДЭЛЯЙДЗЕ**

Візыта Уладыкі Мітрапаліта ў Адэляйдзе пачалася 23-га сьнежня, 1986 г., і трывала два тыдні. У нядзелю 28-га сьнежня, у перапоўненай царкве сьв. Апосталаў Пятра й Паўла, Уладыка служыў сьв. Літургію разам з дыяканам а. Міхаілам Бурносам.

**Дыякан а. Міхаіл рукапаложаны ў сьвятарскі сан**

4-га студзеня 1987 году ў тым-жа Храме, у часе Архірэйскай сьв.Літургіі выкананай у саслужэньні з протапрасьвіцерам а. Аляксандрам Кулакоўскім, дыяканам а. Міхаілам і прысутнымі сьвятарамі: прат. а. Алаксандрам Зелінскім з Украінскае Праваслаўнае Царквы й прат. а. Дабралюбам Петковічам з Вольнае Сэрбскае Царквы, Мітрапаліт і Першагерарх БАПЦ Ізяслаў рукапалажыў дыякана а. Міхаіла Бурноса ў саын сьвятарскі прызначаючы яго Настаяцелям парафіі сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе, Паўдзённай Аўстраліі. На пазьнейшым Малебне ўдзячнасьці бралі ўдзел усе прысутныя сьвятары. Было шмат парафіянаў і гасьцей і адчувалася важнасьць той падзеі.

Як відаць з вышэй паданых нацыянальнасьцяў сьвятароў у Адэляйдзе як раней і ў Мэльбурне, міжнароднае прызнаньне БАПЦ сярод іншых Цэркваў у Аўстраліі й супрацоўніцтва зь імі, стаяць на добрай дарозе.

**ІЗНОЎ У МЭЛЬБУРНЕ**
**Калядныя Багаслужбы**

6-га студзеня 1987 году, Уладыка Мітрапаліт вярнуўся ў Мэдьбурн на Каладныя Службы якія служыў разам з а. Аляксандрам Кулакоўскім у парафіі сьв. Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне. 7-га студзеня, дзень Нараджэньня Хрыстовага, пачаўся Архірэйскай сьв. Літургіяй пры поўнай царкве парафіянаў і гасьцей, што прыехалі на *Сустрэчу Беларусаў Аўстраліі.* Пасьля Багаслужбы, Сястрыцтва прыгатавала абед у парафіяльнай залі на якім раздаваліся падарункі некаторым заслужаным парафіянам.



**На Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі**

На 3-ю гадзіну тога-ж дня Уладыка Мітрапаліт быў запрошаны прывітаць і паблагаславіць *Сустрэчу Беларусаў Аўстраліі,* што й было зроблена, гэтым адчыняючы *Сустрэчу.* Уладыка Ізяслаў быў прысутны на афіцыйнай частцы *Сустрэчы,* якая складалася з прывітаньняў і прамоваў ды й на пачастунку, а пазьней меў прыемнасьць слухаць беларускія Калядкі прыгожа выкананыя хорам *Каліна* з Мэльбурну.

На другі дзень *Сустрэчы* адбыўся канцэрт з удзелам хору *Каліна* й моладзі з парафіі БАПЦ ў Адэляйдзе. Абедзьве групы выступалі з народнымі песьнямі й танцамі. Тут, пры парафіях БАПЦ, захавалася беларуская моладзь якая цікавіцца сваёй роднай культурай. У беларускім асяродку ў Сыднэі, дзе няма парафіі БАПЦ, няма й культурнае дзейнасьці й прадстаўнікі із Сыднэю нічога мастацкага не паказалі на *Сустрэчы.*

* * *

16-га студзеня 1987 году, Уладыка Мітрапаліт Ізяслаў вярнуўся дадому ў Амэрыку пасьля вельмі ўдалай візыты да нашых суродзічаў у Аўстраліі. Калі ў часе першай візыты Уладыкі Ізяслава да Аўстраліі ў 1981-м годзе часамі былі публічныя гутаркі ці дыскусіі аб нашых раскольніках у Амэрыцы, гэтым разам іх ня было.

**ЗДЫМКІ. ВЕРХНІ: 21-га сьнежня 1986 году, Уладыка Мітрапаліт Ізяслаў і а. Аляксандар Кулакоўскі ў часе Багаслужбы ў парафіі сьв. Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне; СЯРЭДНІ: а. А. Кулакоўскі спатыкае Першагерарха БАПЦ пры ўваходзе да Храму ў Мэльбурне, 21-га сьнежня 1986 г.; НІЖНІ: Сустрэча Уладыкі Мітрапаліта на лётнішчы ў Мэльбурне 17-га сьнежня 1986 году.**

## *Сьвяточныя Вітаньні з Англіі ў Часе Візыты Першагерарха БАПЦ ў Аўстраліі*

Дастойнаму Протапрасьвіцеру
а. Аляксандру Кулакоўскаму
Настаяцелю БАПЦ
ў Мельбурне, Аўстралія.

Брадфард, сьнежань 1986 год

*Вельмішаноўны а. Аляксандар,*
*дарагія Суродзічы, Вернікі БАПЦ у Аўстраліі!*

Ветліва просім Вас, прымеце нашыя найшчырэйшыя прывітаньні і сардэчныя пажаданьні правесьці весела Сьвятыя Каляды й шчасьліва сустрэць Новы 1987 Год!

З нагоды Вашае Царкоўнае Урачыстасьці мы лучымся з Вамі духова, ды просім у супольных малітвах аб помач, каб Сын Божы Ісус Хрыстос, Збавіцель Сьвету, прыняў апеку над шматпакутным Беларускім Народам і, каб памог зрабіць вольнай і шчасьлівай Бацькаўшчыну БЕЛАРУСЬ!

Супольна адклікаемся да Архіпастырскага Благаславеньня Яго Высокапрэасьвяшчэнства, Высокапрэасьвяшчэньнейшага Мітрапаліта ІЗЯСЛАВА, Першагерарха Сьв. Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Уладыка Благаславі!

Усе просім: няхай Усемагутны паманае і бароніць Вас цяпер і заўсёды!

*З сьвяточнымі прывітаньнямі для ўсіх Вас,*
*Духавенства, Вернікі й Сябры Рады БАПЦ ў Вяліка-Брытаніі*

## АД РЭДАКЦЫІ

*Ведаючы, што набор беларускага тэксту заўсёды быў і сёньня застаецца праблемаю для многіх Беларусаў, што хацелі-б нешта апублікаваць, „БЕЛАРУСКІ ЧАС" цяпер можа прымаць заказы на набор кампютарам, фатаграфічным спосабам. Якасьць набору будзе прыблізна такая як у нашай газэце або ў апошнім часе ў „Голасе Царквы". Пра дэталі зьвяртацца да рэдакцыі.*

 



# ДОБРЫЯ ВЕСТКІ з Аўстраліі

НА Аўстралійскім кантынэнце пасялілася ня мала беларусаў. Большасьць з іх знаходзіцца ў гарадох: Сыднэі, Мэльбурне, Адэвляйда й Пэрт.

У Мэльбурне амаль ад пачатку стварылася парафія БАПЦ якая стала цэнтрам беларускага рэлігійнага й грамадзкага жыцьця ў тым горадзе. 22-га лістапада, 1986 г. споўнілося 5 гадоў ад часу высьвячэньня зусім перабудованага будынку іхнае Царквы. Каб належна адсьвяткаваць Пяцігодзьдзе Высьвячэньня Царквы, протапрасьвіцер а. Аляксандар Кулакоўскі, Настаяцель парафіі сьв. Віленскіх Мучанікаў Антона, Яна й Эўстафа ў Мэльбурне, з некаторымі парафіянамі, ўлажыў многа працы над будовай новага вельмі прыгожага іконастасу. Усе працы пры Царкве былі закончаныя да сьвяткаваньня гэтае гадавіны 21-га сьнежня, 1986 году. На сьвяткаваньне быў запрошаны Мітрапаліт і Першагерарх БАПЦ Ізяслаў.

### НА ПАЦІГОДЗЬДЗІ ВЫСЬВЯЧЭНЬНЯ ХРАМУ Ў МЭЛЬБУРНЕ

Сьвяткаваньне пачалося ўрачыстай Архірэйскай Літургіяй на якой адбылося рукапалажэньне дырыгэнта хору з парафіі БАПЦ ў Адэляйдзе, Міхаіла Бурноса ў сан дыяканскі. Настаяцель а. Аляксандар запрасіў іншых праваслаўных сьвятароў на гэтае сьвяткаваньне й таму на Малебне ўдзячнасьці бралі ўдзел, апрача Настаяцеля й дыякана Міхаіла Бурноса, а. Уладзімір Салыга з УАПЦ ды былі прысутнымі праваслаўныя сьвятары: Дзімітры Гайна — румынскі, Ефтым Бетынскі — македонскі й Іскандар




*Юбілейны значок выданы на пяцігодзьдзе высьвячэньня храму ў Мельбурне. На значку паказана дата заснаваньня прыходу ў 1958 годзе*

Афрам — сырыйскі. Прыгожа пяяў хор парафіі сьв. Віленскіх Мучанікаў пад кіраўніцтвам дырыгэнта Мікалая Ўсьцінава. Сьвяткаваньне прадаўжалася ў парафіяльнай залі дзе Сястрыцтва, пад кіраўніцтвам старшыні яго Сп-ні Аляксандры Цугмайстар, частавала ўсіх смачным абедам. У запоўненай залі, пры сталах перапоўненых ежай і напіткамі, прысутныя жывіліся таксама ежай духоўнай. У прамовах заклікалася ўсіх быць больш актыўнымі й стараннымі пры Царкве, кожнаму старацца служыць Богу як шчырай малітвай так і добрымі ўчынкамі й сваёй безітэрасоўнай працай пры Царкве, бо Богу лягчэй дагадзіць чым людзям. Бог даруе людзям іх грахі, калі яны зьвяртаюцца да Яго з каяньнем, але людзі часам на працагу ўсяго свайго жыцьця ні разу іншаму не даруюць. У ўрачыстай, сяброўскай атмасфэры закончылася сьвята якое абазначае важную падзею ў жыцьці нашае Царквы.

### У АДЭЛЯЙДЗЕ
*РУКАПАЛАЖЭНЬНЕ НОВАГА СЬВЯТАРА*

У Адэляйдзе, усё беларускае рэлігійнае й грамадзкае жыцьцё ёсьць засяроджаным пры Царкве Апосталаў Пятра й Паўла. Пачатак Парафіі даў протаерэй Міхаіл Шчурко, хто сваёй напалеглівасьцю й стараньнямі сабраў належныя фонды на будову Царквы й Яе пабудаваў. Цяпер можна там бачыць невялікую але прыгожую Царкву ў праваслаўным стылі з месцам для крыжовага абыходу навокал. Ёсьць асобна пабудаваная заля для парафіяльных і грамадзкіх імпрэзаў.

28-га сьнежня, 1986 г., многа вернікаў сабралася ў Парафіі Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе, калі туды завітаў Мітрапаліт Ізяслаў і служыў з дыяканам Міхаілам Сьв. Літургію. Як 27-га сьнежня так і 3-га студзеня служылася Вячэрня з 9-ым Часам. 4-га студзеня, 1987 года ў той-жа самай Царкве, на Архірэйскай Сьв. Літургіі ў саслужэньні з а. протапрасьвіцерам Аляксандрам Кулакоўскім, дыяканам Міхаілам і прысутнымі сьвятарамі прот. Аляксандрам Зелінскім з Украінскае Праваслаўнае Царквы й. прот. Добралюбам Петковічам з Вольнае Сэрбскае Царквы, Мітрапаліт і Першагерарх БАПЦ рукапалажыў дыякана Міхаіла Бурноса ў сан Сьвятарскі й назначыў яго Настаяцелям парафіі Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе, Паўдзённай Аўстраліі. Адразу пасьля Сьв. Літургіі, пры ўдзеле ўсіх прысутных сьвятароў, Мітрапаліт адслужыў Малебен удзячнасьці.

На гэтых Багаслужбах было многа харыстых, парафіянаў і гасьцей. Хор, пад кіраўніцтвам м. Тамары Сітнік, прыгожа выканаў усе песьні Багаслужбаў.

Каб больш урачыста адзначыць і прывітаць рукапаложанага Сьвятара Міхаіла Бурноса, у парафіяльнай залі быў прыгатаваны Сястрыцтвам абед для сьвятарства, парафіянаў і гасьцей. Сьвятарства й некаторыя парафіяне ў сваіх кароткіх прамовах віталі нававысьвячанага а. Міхаіла, жадаючы яму посьпехаў у яго служэньні Богу й свайму Народу.

Ад часу свайго заснаваньня, Царква Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла мела ўжо чатырох сьвятароў, з якіх ні адзін ужо ня жыве. Імёны іх: Міхаіл Шчурко, Мікола Чычэліс, Георг, і Аўген Сітнік.

### НА КАЛЯДЫ Ў МЭЛЬБУРНЕ

Нараджэньне Хрыстовае пачалося службай Вялікага Павячэр'я 6-га студзеня ўвечары ў Мельбурне ў парафіі Сьв. Віленскіх Мучанікаў, куды вярнуўся Мітрапаліт Ізяслаў і Настаяцель парафіі а. Аляксандар Кулакоўскі. 7-га студзеня, Нараджэньне Хрыстовае сьвяткавалася ўрачыстай Архірэйскай Сьв. Літургіяй пры ўдзеле поўнае Царквы парафіянаў і гасьцей. Сьвята закончылася ў парафіяльнай залі абедам прыгатаваным Сястрыцтвам й раздаваньнем калядных падарункаў заслужаным парафіянам.

### НА СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ

*Сустрэча Беларусаў Аўстраліі* пачалася 7-га студзеня, 1987 г., а гадз. 3-яй пасьля абеду. Мітрапаліт Ізяслаў вітаў і благаславіў *Сустрэчу* ды жадаў усім брацьцям удзел у гэтых *Сустрэчах* у будучыні. Пасьля прамоваў хор *Каліна* прасьпяваў некалькі калядак. 8-га студзеня ўдзельнікі *Сустрэчы* мелі прыемнасьць пабыць на канцэрце даным хорам *Каліна* з парафіі Сьв. Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне й моладзю з парафіі Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе. Абедзьве групы выступалі з беларускімі народнымі песьнямі й танцамі.

Хоць у Сыднэі, у найбольшым горадзе Аўстраліі, магчыма жыве найбольш Беларусаў розных напрамкаў і перакананьняў, але таму, што яны там не стварылі парафіі БАПЦ, там цяпер няма беларускіх арганізацыяў моладзі й таму, на *Сустрэчы* ў Мэльбурне, Сыднэйцы нічога мастацкага не паказалі. Паміж удзельнікамі *Сустрэчы* з Сыднэі ня было прадстаўнікоў моладзі. Моладзь там ня толькі не бярэ ўдзелу ў беларускім арганізацыйным жыцьці, але ўжо зусім не гаворыць мовай сваіх бацькоў. Так як іхныя бацькі ходзяць у расейскія цэрквы, не стварыўшы свае, так і моладзь пайшла ў розныя Аўстралійскія Цэрквы (або нікуды).

Нашым абавязкам ёсьць заахвочваць моладзь вучыць сваю мову, свае песьні й танцы. У Цэрквах трэба заахвочваць моладзь да сьпеву ў Царкоўных хорах. Мы мусім думаць аб нашай рэлігійнай і грамадзкай будучыні у вольным сьвеце. Нашыя парафіі ў Аўстраліі ёсьць добрым прыкладам для нас усіх на эміграцыі й нават на Бацькаўшчыне, дзе ўсё беларускае выкідаецца, пачынаючы ад вывучэньня мовы ў школах. ☆

—*Прысутны*

# Рым Аб «Душахваце» Іасафаце Кунцэвічу

У вуніяцкім часапісе "Der Christliche Osten", Нр.5/6, 1986 год, што выдаецца ў Вюрцбургу ў Нямеччыне, на нямецкай мове, паявіўся артыкул пад загалоўкам „Духоўныя крыніцы сьвятога Іасафата Кунцэвіча". Тут трэба падкрэсьліць слова „сьвятога" бо Кунцэвіч (1580-1623) быў такі самы „сьвяты" як Сталін у нашу пару.

З гісторыі ведама, што Іасафат Кунцэвіч быў вуніяцкім царкоўна-палітычным дзеячам, праваднік палітыкі жорсткага нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту беларускага народу. Выхаваньне атрымаў у віленскіх езуітаў, пад уплывам якіх перайшоў з праваслаўя ў вуніяцтва. Быў настаяцелям Быценскага, Жыровіцкага й Віленска-Троіцкага вуніяцкіх манастыроў. У 1606 памагаў архіяпіскапу В. Руцкаму граміць праваслаўныя цэрквы й манастыры ў Вільні й сілаю далучаць іх да вуніі. За фанатычны дэспатызм і жорсткасьць праваслаўнымі Беларусамі празваны *душахватам*. З 1518 году быў вуніяцкім архіяпіскапам полацкім. Да ягонага „гаспадарства" належалі гарады: Полацк, Магілёў, Мсьціслаў, Віцебск і Орша.

Пад канец 1618 году Кунцэвіч накіраваўся ў Магілёў, каб закрыць праваслаўныя цэрквы й прымусіць жыхароў гораду прыняць вуніяцтва. Магілёўскія мяшчане сустрэлі атрад Кунцэвіча са зброяй у руках. Кунцэвіч паскардзіўся Каралю Зыгмунту III, які жорстка расправіўся з непакорным горадам: кіраўнікоў паўстаньня сурпаць вуніі пакаралі сьмерцю, на гараджан налажылі штраф, а ўсе праваслаўныя цэрквы перадалі вуніятам. Зброяй прагналі Кунцэвіча й жыхары Оршы.

За пагромы, зьдзекі й масавыя лютыя распраўы над праваслаўнымі ў полацкай Епархіі, Беларусы сякерай засяклі Кунцэвіча на сьмерць у яголым доме ў Віцебску над Дзьвіной нібы тады калі *дышахват* „маліўся".

Аўтар вышэй успомненага артыкулу, С. Сенык, ёсьць гісторыкам у ватыканскім інстытуце ў Рыме й апісвае жыцьцё Кунцэвіча ў пазытыўным сэнсе, як „мучаніка", рэлігійнага й „сьвятога" чалавека, зусім не зьвяртаючы ўвагі на гістарычную праўду. Праўда-ж, пасьля другое сусьветнае вайны, як-бы на зьдзек над Беларусамі, Папа рымскі агаласіў Кунцэвіча „сьвятым" і гэтую пра-Польскую фікцыю ватыканскім гісторыкам цяпер прыходзіцца нeяк апраўдываць.

Вельмі шкада, што сёньня, калі нам трэба было-б забывацца і залечваць раны гістарычных зьдзекаў учыненых у імя рэлігіі, Рым ізноў бездапстаўна выцягвае на верх тую брудную бачынку свае гісторыі ў Беларусі. Не ў такі спосаб пашыраецца супакой і добрая воля сярод народу і не ў такі спосаб Беларусы могуць жыць у згодзе адзін з другім. Як кажуць, гісторыя паўтараецца, і нажаль гэта праўда.

## НОВЫЯ ВЫДАНЬНІ

• **НА КРЫЖОВАЙ ДАРОЗЕ,** *Аўген Калубовіч*. Клыўлэнд, 1986. Выданьне аўтара, 253 бачынкі. Гэтыя ўспаміны апісваюць зьняволеньне аўтара ў трох турмах у Беларусі (БССР) і ў трох канцэнтрацыйных лягерох у Савецкім Саюзе у першай палове 1930-х гадоў. Таксама апісваецца зьнішчэньне Масквою беларускіх сялянаў, беларускай інтэлігэнцыі й духавенства. У ўспамінах падаецца шмат фактаў з тога бурлівага пэрыяду беларускай гісторыі, падаюцца даты, мейсцы й праўдзівыя прозьвішчы ўспомненых асобаў. Кнігу вельмі цікава чытаць і вялікая колькасьць паданага гістарычнага матэрыялу напэўна будзе карысным будучым гісторыкам.

• **ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ,** Паведамленьні Парахвіяльнае Рады Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Нр.2/18(28) за сьнежань, 1986 г. Рэдагуе Сп. Б. Данідюк. Зьмешчаны сьвяточныя вітаньні, парахвіяльныя інфармацыі, жалобная хроніка й інш. Традыцыйна, разам з рассылкай *Пасланца,* просяцца ахвяры на парахвію. З прыемнасьцяй можна паведаміць, што збор ахвяраў ідзе вельмі добра й многія парахвіяне як і не парахвіяне прысылаюць значныя сумы. Парахвіяльная Рада спадзяецца, што хто яшчэ не зладжы свае ахвяры, прышле яе ў хуткім часе.

• **БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА BYELORUSSIAN AUTOCEPHALIC ORTHODOX CHURCH,** Выданьне Рады БАПЦ ў Вялікай Брытаніі. Інфармацыйная брашура, 20 бачынак, Брадфард, 1986. Апрацаваў Янка Калбаса. Зьмешчаны: Калядчнае Архіпастырскае Пасланьне Мітрапаліта Ізяслава, Першагерарха БАПЦ; расклад Багаслужбаў у парафіі сьв. Спаса ў Брадфардзе, у парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Мачэстары, у парафіі сьв. Мікалая ў Нотынгам, у парафіі Нараджэньня Прасьвятое Багародзіцы ў Кембрыдж, у парафіі Ўсіх Сьвятых у Лёндане, і ў парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Бірмінгам-Вульвэргамптон; рэлігійныя артыкулы ў ангельскай мове; вершы; каляндар на 1987 год; сьпісак беларускіх мітрапалітаў і інш.

### ПРАБЛЕМА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ХВАЛЮЕ МНОГІХ У БССР, АЛЕ ЦІ МАСКВА ПАЗВОЛІЦЬ ІМ ПАПРАВІЦЬ СЫТУАЦЫЮ?

Нядаўна ў *Літаратуры і Мастацтве* быў апублікаваны вельмі крытычны артыкул К. Тарасава аб мізэрным стане вывучэньня беларускай мовы ў школах у БССР. Каментар у ангельскай мове друкаваўся ў „*ЧАСЕ*" у папярэднім нумары газэты. Ніжэй друкуецца апісаньне водгукаў на гзты артыкул і на ўсю праблему беларускае мовы ў БССР, узятае з беластоцкай *НІВЫ:*

Вялікі чытацкі водгук выклікала пісьмо віцебскага настаўніка Ф. Сіўко „Прашу вызваліць" і каментарый пісьменьніка К. Тарасава „Закон і вакол закона", надрукаваныя ў *Літаратуры і Мастацтве.* У гэтых публікацыях былі ўзяты пытаньні вывучэньня беларускай мовы ў агульнаадукацыйных школах БССР. Аўтары артыкулаў, як і чытачы (разгарнулася шырокая і хвалюючая дыскусія), крытычна ацанілі сытуацыю ў гэтай галіне, паказалі яе вытокі, унесьлі канкрэтныя прапановы, якім чынам можна пераадолець хібы ў беларускай асьвеце, палепшыць умовы далейшага разьвіцьця нацыянальнай культуры. Быў апублікаваны таксама адказ Міністэрства асьветы БССР, з якога, як адзначае *ЛіМ,* вынікае, што ніякіх асаблівых праблем увогуле не йснуе, ніякія асаблівыя захады з боку міністэрства не патрабуюцца. Заканчваючы дыскусію, рэдакцыя піша: „Спадзяёмся, што меркаваньні чытачоў будуць уважліва, па-дзелавому, у духу часу, разгледжаны кіраўнікамі нашай асьветы, а таксама Міністэрствам вышэйшай і сярэдняй адукацыі, Міністэрствам культуры і некаторымі іншымі ведамствамі".

 

# ГАДАНЬНІ АБ БУДУЧЫМ І ПРАРОЦТВЫ НОСТРАДАМУСА

З даўных часоў моладзь на Беларусі праводзіла на калядныя й навагоднія дні на вясёлых вечарынках з варажбамі й прадказаньнямі будучыні аб жаданым мужу або жонцы. Дзяўчаты й хлапцы варажылі самымі рознымі спосабамі да сьвята Крашчэньня.

Дый і сёньня многія людзі ў сьвяточныя дні перад новым годам стараюцца заглянуць у будучае з ягонымі й чакаючымі нас здарэньнямі.

У наш трывожны час шматлікія задумоўваюцца аб надыходзячым незадоўга XXI стагодзьдзі й што яно нам прынясе.

Некаторыя напамінаюць аб прароцтвах выказаных выдатным прадбачальнікам Нострадамусам, жыўшым у 16-ым веку ў Францыі.

Маці Нострадамуса была каталічкай, а бацька, Якаў Іссахар, жыдам. Пад уплывам жонкі, ён аднак перайшоў таксама на каталіцтва. У іх нарадзіўся ў сьнежні 1503 году сын Мішэль. Да таго часу Якаў Іссахар прыняў лацінскае прозьвішча Нострадамус (у чэсьць Багародзіцы), якое перайшло й да сына.

Скончыўшы ўнівэрсытэцкія студыі, Мішель Нострадамус зацікавіўся пісаньнем нарысаў па астраноміі і ў 1555 годзе з пад яго пяра зьявіліся, як ён іх назваў, „цэнтурыі", г.зн. „стагодзьдзі" з апісаньнем здарэньняў надыходзячых вякоў.

Нострадамус выдаў усяго дванаццаць „цэнтурыяў" у якіх дакладна прадсказаў выпадкі бліжэйшых гадоў і прадсказвае далёкае будучае. Між іншым, ён зусім дакладна прадсказаў і дату свае сьмерці — 2 ліпеня 1566 году.

Напісаныя на старафранцузкай мове, „цэнтурыі" Нострадамуса патрабавалі перакладу на сучасную французкую мову. Адным з вядомых перакладчыкаў і тлумачоў быў Др. Н. Цэнтурыо (псэўдонім), хто выдаў у 1953 годзе ў Заходнім Бэрліне свой пераклад „цэнтурыі" дзе зьмешчаны прадсказаньні Нострадамуса пра Расею пачынаючы з 1917 году.

Вытлумачваць і камэнтаваць прадсказаньні Нострадамуса прыходзіцца дзеля таго, што ён вельмі часта карыстаўся ў сваіх „цэнтурыях" алегорыямі, за якімі хаваліся запраўдныя імёны гістарычных асобаў і назвы дзяржаваў. Так, напрыклад, гаворачы аб вялікай будучай дзяржаве Паўночнае Амэрыкі, Нострадамус назваў яе *Вялімім Нептунам* па імені бога мораў і акіянаў.

Варочаючыся да прадсказаньняў адносна Расеі, вось як Нострадамус апісвае (у 6-ым „цэнтурыі") рэвалюцыю 1917 году: „Чутны песьні й галасы, мольбы славянскага народу калі князёў і арыстакратаў кідаюць у турмы, а народ слухае дурняў і лгачоў, ды прымае іхнія словы за боскае адкрыцьцё". Прадбачыў Нострадамус і зьяўленьне Сталіна, назваў яго „вождем" і „генаралісімусам" Арменіі й галавой „чырвонае партыі".

Прадбачыў Нострадамус і здарэньні Другое Сусьветнае вайны, назваўшы Гітлера „карычнявым бяздумцам", а Мусаліняга ён проста называе словам „дучэ". У першай сусьветнай вайне ён прадбачыў перамогу Антанты на чале з „Вялікім Нептунам", г.зн. са Злучанымі Штатамі Амэрыкі.

Нострадамус прадбачвае й ісламскую агрэсыю у выніку якой адбудзецца сутычка арабскага сьвету з Эўропай. Апошняя высуне супраць агрэсара армію на чале з французкім палкаводцам, якога Нострадамус называе *Анры Шчасьлівы*. У гэтай вайне па баку арабаў мае прыняць удзел і „славянскі народ" (трэба разумець Савецкі Саюз), але перамога застанецца за Эўропай. У 1990 годзе з пераможным заканчэньнем вайны ўпадзе улада „чырвонае партыі" і ў Расеі наступіць вызваленьне.

XXI стагодзьдзе Нострадамус малюе як эпоху ўсеагульнага супакою. Анры Шчасьлівы станецца „прэзыдэнтам Аб'еднанае Эўропы", але пасьля ягонае сьмерці зноў пачнуцца ўсякія беды, ваенныя сутычкі й тэрор.

У канцовых прадбачаньнях Нострадамуса пішацца, што да 3970 году адбудзецца калясальны прагрэс чалавечых ведаў і магчымасьцяў і канчальная перамога над усякімі бедамі й хваробамі наблізіць чалавека да бязсьмяротнасьці.

Студэнты Нострадамуса таксама кажуць, што ён прадсказаў атамную эру, радыяцыю, зьнішчэньне Гірашымы й Нагасакі ў часе Другое Сусьветнае вайны, рэвалюцыю ў Іране й зьяўленьне Аятолы, вайну ў паветры (самалёты) й нават палёт чалавека на месяц. І ўсё гэта Нострадамус пісаў больш як 400 гадоў таму назад, падаючы даты, мейсцы й імёны. Нават скептыку цяжка быць няўзрушанаму дакладнасьцяй ягоных прадсказаньняў. ☆

# З Новым Годам, Землякі

*Час вайны ліхі, праклятьі,*
*Гнаў ён нас на ўсе бакі,*
*Пакідалі сем'і, хаты,*
*Беларусы, землякі.*

*Па ўсім сьвеце расплыліся,*
*Быццам тыя маракі,*
*Ды за працу ўзяліся*
*Нашы людзі, землякі.*

*Хто як мог так працавалі,*
*Каб купіць дамок які,*
*Многа поту пралівалі*
*З кожным годам, землякі.*

*Ўсяк жылі, не наракалі*
*На свой дзіўны лёс такі,*
*Толькі ціха ўспаміналі*
*Дом свой родны, землякі.*

*Дзейныя яшчэ працуюць,*
*Хоць пажылыя гадкі,*
*Беларусь рэпрэзэнтуюць*
*На чужыне, землякі.*

*Чужына нас прытуліла,*
*Дзе жывём быццам вякі,*
*Часам сумна, часам міла, —*
*Так жывуць вось землякі.*

*Дык жывіце ўсе ў згодзе,*
*Як сапраўдны дружбакі,*
*Скажу Вам тут пры нагодзе:*
*З Новым Годам, Землякі!*

**Ю. В-скі.**

• **СЛУЖБА ЗА ПАМЁРШЫХ [Малая паніхіда].** На беларускай мове. Машынапісная выданьне беларускай вуніяцкай царквы Сьвятых Апосталаў Пятра й Паўла ў Лёндане, 1986 г. Сшыток нядаўна паявіўся ў Нью Ёрку. Праваслоўныя знаўцы кажуць, што тым перакладам амаль немагчыма карыстацца ў службе. ☆

**Апінія:**

# Аб Беларускім Вуніяцтве

Што беларускае вуніяцтва амаль не йснуе ёсьць бязспрэчны факт. Мы маем лідара беларускага вуніяцтва ў асобе а. Надсана ды й яшчэ можа адну ці дзьве асобы нам няведамыя, а можа й нікога больш ужо не засталося ў жывых. На Бацькаўшчыне таксама няма вуніятаў. У чым тады справа?

Здавалася'б, нашто іх(яго) чапаць? Хай-бы а. Надсан спакойна з нашымі найлепшымі пажаданьнямі працаваў у той бібліятэцы ў Лёндане, хай-бы ён езьдзіў куды хоча й калі хоча, рабіў што хоча й нават хай-бы ад часу да часу памаліўся каля помніка беларускіх гэрояў на могілках у Іст Брунсвіку ды й на сустрэчах. Якая можа быць розьніца? Ён нікога не перацягне на вуніяцтва й як да Беларуса й навукоўца, мы павінны да яго добра адносіцца.

Лёгіка вядзе да такога разважаньня й здаецца цяжка пад яго падкапацца. Але тут ёсьць іншая справа, палітычная, створаная ня тым бязсільным вуніяцтвам (адной асобай), але іншымі людзьмі, каталікамі й праваслаўнымі ў розных адценях значэньня гэтага слова, якія выкарыстоўваюць вуніяцтва для сваіх асабістых амбіцыяў і ў замену даюць паклон вуніяцтве.

Цэнтральнае мейсца ў гэтым аргумэнце належыць парафіям БАПЦ пры якіх адбываецца амаль усё нашае грамадзкае жыцьцё ў вольным сьвеце й таму, той хто кантралюе парафіяй можа паказаць сябе „дзеячам"*. У Амэрыцы, перад уладай Мітрапаліта Андрэя, парафіямі кіраваў не Першагерарх які жыў у Аўстраліі й ня столькі Арх. Васіль у Нью Ёрку, як парафіяльныя рады й сьвецкая арганізацыя БАЗА да якой належала шмат каталікоў. У той час, некаторыя парафіі нават не называліся парафіямі а ў першую чаргу *грамадзкімі цэнтрамі*. Пры Мітрапаліце Андрэі кантроля над парафіямі перайшла герархіі, што пакінула *дзеячаў*, кажучы проста, „без занятку". Шукаючы прычэпку й знайшоўшы яе ў асобе Яноўскага, „дзеячы" выступілі супраць Мітрапаліта Андрэя, выклікалі царкоўны бунт ды адышлі ад БАПЦ.

Але *дзеячам* патрэбная грамада каб далей паказваць сябе як *дзеячаў*. Яны сабралі сваіх прыхільнікаў, адшчэпнікаў-БАЗАўцаў ды й іншых цемнякоў-бядуляў і сталі дэманстрацыйна *з гарачкай* падтрымоўваць чужое нам, створанае Палякамі, вуніяцтва. Быўшы ў бальшыні малаверуючымі, цяжка лічыць, што тыя *дзеячы* шчыра адносяцца да вуніяцтва. Хутчэй можна паверыць, што яны гэтым учынкам хочуць гразіць тым ад куль выйшлі: „Як не паслухаеш мяне, то развалю тваю царкву." Вельмі шкада, што яны так заўзята сталі супраць Царквы й Мітрапаліта Андрэя хто ніколі нічога кепскага нікому не зрабіў. Можа некаторыя зь іх яшчэ апамятаюцца й вернуцца назад да свае Царквы.

Як ведама, ані праваслаўныя, ані каталікі ня хочуць вуніяцтва й дзеля гэтага, на прыклад, рабіць таржаство сустрэчы вуніяцкага лідара ў Кліўлендзе ў часе т.зв. Сустрэчы Беларусаў ў верасьні 1986 году, займацца гэтай фікцыяй і спадзявацца на ілюзію, што магчыма, той дэманстрацыяй *дзеячам* удасца ашукаць Рым і паказаць, што нібы, вуніяцтва ёсьць папулярнае сярод Беларусаў, выклікае вялікі нясмак. Нясмак павялічваецца калі прыпомнім, што тыя самыя *дзеячы*-адшчэпнікі варожа ставяцца да свае беларускае праваслаўнае царквы (БАПЦ) і стараюцца ігнараваць яе бо яны, як тыя нявольнікі, лепш будуць служыць чужому аўтарытэту чым свайму беларускаму. Да нясмаку яшчэ дабаўляецца тое, што на Сустрэчу ў Кліўлендзе арганізатары пасароміліся нават запрасіць Першагерарха БАПЦ, Мітрапаліта Ізяслава. Відаць, што для іх вуніят быў важнейшы. Трэба тут дабавіць, што сытуацыя была папраўлена на пачатку студзеня 1987 году, на Сустрэчы Беларусаў ў Мэльбурне, Аўстраліі, якую Яго Высокапрэасьвяшчэнства Мітрапаліт Ізяслаў адчыніў малітвай.

Да ўсяго гэтага, правідловае захаваньне а. Надсана, як лідара беларускага вуніяцтва, мелася-б быць не раздзьмухваць агні непарадкаў, а катэгарычна адмовіцца ад супрацоўніцтва з усімі тымі, што прабуюць развальваць БАПЦ, г.зн., не гасьціць у адшчэпнікаў, не бываць на іхных імпрэзах і не даваць ім духовае падтрымкі. Нэйтральнасьць з ягонага боку не вымагае ігнаранцыі адносінаў паміж адшчэпнікамі й легітымнымі ўладамі БАПЦ, але вымагае карыстаньня ягонага розуму. Пры гэтым разумеецца, што а. Надсан ня ёсьць такі наіўны каб думаць, што вуніяцтва можа ўзбагаціцца з непарадкаў сярод праваслаўных.

*) У грэцкай або расейскай царкоўнай юрысдыкцыі Беларусы ніколі ня мелі такой свабоды і там яны верна служаць свайму царкоўнаму, хоць чужому, кіраўніцтву.

The Byelorussian Times
USPS 345—170
9—06 Parsons Blvd.
Flushing, N.Y. 11357, U.S.A.
A Byelorussian newspaper published bimonthly in January, March, May, July, September and November.
Dr. Roger Horoshko, Publisher
Annual subscription $8.00
U.S. currency only
From outside of the U.S.A. payment must be made by an international money order drawn on a U.S. bank or by a postal money order payable by the U.S. Post Office. For air mail to Europe add $4.00 or $6.00 to Australia.
POSTMASTER:
Send address changes to the BYELORUSSIAN TIMES
Post Office Box 141
Whitestone, N.Y. 11357
SECOND CLASS POSTAGE PAID AT FLUSHING, N.Y. 11355
ЧАС
Двумоўная Беларуская Газэта
Др. Р. Гарошка, выдавец
*Выходзіць 6 разоў на год у студзені, сакавіку, травені, ліпені, верасьні й лістападзе.*
Падпіска за 6 нумароў газэты (гадавая) каштуе $8 даляраў у Амэрыцы. З іншых краінаў грошы павінны быць перасланыя ў *амэрыканскіх далярах* банкавым або паштовым грашовым пераказам.
Лётніская перасылка каштуе дадаткова: $6 да Аўстраліі й $4 да краінаў Эўропы.



# Плачучая Ікона

(працяг з 1-й бачынкі)

насьці.

Царква Сьв. Мікалая наняла дадатковы пэрсанал, каб паломнікі маглі далучыцца да цуду праз увесь час. Сотні праваслаўных вернікаў прыяжджаюць да царквы з шматлікіх замежных краінаў. Каталічка Элеанора Далласанта, ужо чатэры разы наведаўшы праваслаўную царкву, заявіла: „Я не праваслаўная, але цьвёрда перакананая аб існаваньні цудаў. Дзева Марыя аплаквае наш няўпаджаны сьвет". „Гэта наяўная адзнака жыцьцёвасьці нашае царквы", — заявіў адзін з парахвіянаў царквы Сьв. Мікалая.

Шматлікія паломнікі лічаць сымбалічным, што Дзева Марыя выбрала скромную царкву для зьяўленьня цуду. „Гэта ня першае здарэньне плачучае іконы ў практыцы праваслаўнае царквы, — заявіў а. Куфос, — некаторыя іконы зьлівалі сьлёзы некалькі дзён, іншыя - месяцамі". ☆